Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 16 250.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ



Пятніца, 20 лютага 1998 г. № 16 Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Клімаву дазволілі спатканне

*Маці ўгаворвае сына спыніць галадоўку*

Заўтра, 21 лютага — апошні дзень, калі дэпутату і прадпрымальніку Андрэю Клімаву можа быць прад'яўленае абвінавачванне. Інакш, па законе, яго трэба выпускаць з-пад варты.

Аднак разлічваць на тое, што Клімава адпусцяць, не выпадае: не для таго яго арыштоўвалі. Генэральны пракурор Беларусі А.Бажэлка на сваёй прэс-канферэнцыі, ужыўшы дзіўны для юрыстаў тэрмін «папярэдняе абвінавачванне», заявіў, што Клімаву інкрымінуецца «парушэнне парадку ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці» і «крадзеж у асабліва буйных памерах».

Як нам стала вядома, падчас зняволення Клімава выклікалі на допыт усяго толькі двойчы: у дзень, калі яго затрымалі (11 лютага), і ў мінулы аўторак. Абодва разы Клімаў адмовіўся адказваць на любыя пытанні, матывуючы гэта тым, што яго затрымалі незаконна, парушыўшы ягоны статус дэпутацкай недатыкальнасці.

На гэтай жа матывацыі грунтуецца і «сухая» галадоўка А.Клімава, якую той пачаў у першы ж дзень за кратамі. Зрэшты, на сённяшні дзень яна ўжо не «сухая» — як паведаміла маці арыштанта, Ала Пятроўна, з мінулага аўторка Андрэй пачаў піць ваду.

Маці мела спатканне з Андрэем у чацвер. Ёй далі сустрэчу хутчэй за ўсё толькі дзеля таго, каб яна ўгаварыла сына спыніць галадоўку.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## АБСЕ мае свой офіс

**Назіральная група АБСЕ займела свой 4-пакаёвы офіс у адным з памяшканняў Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра IBB.**

Кіраўнік групы (у яе складзе пяць чалавек) пасол Ханс-Георг Вік часова адсутнічае ў Мінску. Пасля ягонага вяртання на будучым тыдні беларускае знешнепалітычнае ведамства канчаткова ўзгодніць праграму і фармат візіту дзеючага старшыні АБСЕ Браніслава Герэмэка. Пра гэта на ўчарашнім брыфінгу ў МЗС паведаміла намеснік міністра Ніна Мазай. Чакаецца, што 27 лютага на цырымонію афіцыйнага адкрыцця місіі АБСЕ ў Мінску Б.Герэмэк прыедзе разам з генеральным сакратаром АБСЕ Луі Арагонам.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Пасол вярнуўся ў Польшчу

**Пасол Віктар Бурскі вярнуўся ў Варшаву.**

Як вядома, ён быў адкліканы ў Мінск два тыдні таму. Беларускія ўлады абвінавацілі Польшчу ў недружалюбных дзеяннях і ў знак пратэсту адклікалі пасла «для кансультацыяў». Афіцыйнаму Мінску не спадабалася ўвядзенне польскім бокам новых правілаў перасячэння мяжы і правядзенне семінараў з удзелам апазіцыі.

**А.Д.**

## Вайскоўцы хочуць больш грошай

**23 лютага беларускія вайскоўцы будуць святкаваць «Дзень абаронцы айчыны». З нагоды свята ўсе 18 тысяч афіцэраў атрымаюць па палове аклада прэміяльных.**

*«Беларускае войска ўкамплектавана цалкам: мы маем 83 тысячы ваеннаслужачых і 15 тысячаў служачых»*, — паведаміў учора на прэс-канферэнцыі намеснік міністра абароны генерал-лейтэнант Міхаіл Казлоў. У той жа час, па яго словах, адчуваецца недахоп запчастак і паліва для тэхнікі. *«Мала грошай*, — кажа М.Казлоў. — *У гэтым годзе мы атрымалі 6 трыльёнаў 340 мільярдаў рублёў на ўтрыманне арміі»*. На думку Казлова, гэтага дастаткова на захаванне баегатоўнасці. Але для развіцця арміі, для закупкі новага ўзбраення, развіцця ваеннай навукі — «грошай не застаецца». *«Хацелася б грошай, і чым больш — тым лепш»*, — кажа М.Казлоў.

**Аляксандр ВАСІЛЕЎСКІ**



ПРАЦЭС

# За што іх судзяць?

Працэс над актывістамі Маладога Фронту Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Лабковічам пачаўся ў сераду ў Мінскім абласным судзе. Пад аховай узброеных амонаўцаў хлопцаў даставілі ў залу суда, пасадзілі ў клетку, якую сцеражэ службовы сабака і яшчэ чацвёра міліцыянтаў з каменнымі тварамі. Шыдлоўскі і Лабковіч трымаліся з годнасцю і заявілі, што не адмаўляюцца ад сваіх палітычных поглядаў.

Жыхар Стоўбцаў, студэнт журфака 19-гадовы Аляксей Шыдлоўскі прызнае сябе вінаватым, толькі часткова. Ён не адмаўляецца, што ноччу 3 жніўня хадзіў з групай хлопцаў па Стоўбцах і паказваў ім адміністрацыйныя будынкі, але ніякіх надпісаў сам не рабіў.

Эпізод з помнікам Дзяржынскаму бярэ на сябе Вадзім Лабковіч. 16-гадовы мінскі школьнік пацвярджае, што ўдзельнічаў у сумесным «з іншымі хлопцамі» напісанні на пастаменце гэтага помніка словаў: «Смерць маскоўскім халуям». Таксама Лабковіч прызнае, што ён напісаў «Радзіма. Свабода. Далоў Луку-урода» на будынку райвыканкама і словы «Палац прэзідэнта» на адной з гарадскіх прыбіральняў. Але галоўнай тэмай творчасці школьніка была дзяржаўная незалежнасць. Лозунг «Жыве Беларусь!» ён напісаў на некалькіх будынках. Не адмаўляецца хлопец і ад таго, што менавіта ён замяніў чырвона-зялёны сцяг на райвыканкаме. «Таму што бел-чырвона-белы сцяг павінен быць дзяржаўным», — заявіў суду Лабковіч. Пры гэтым ён зазначыў, што знятае чырвона-зялёнае палотнішча не рваў на кавалкі, а захаваў і прывёз у Мінск. Цікава, што, прызнаўшы ўсе гэтыя дзеянні і нават пагадзіўшыся, што іх можна кваліфікаваць як «у нейкім сэнсе хуліганства», Вадзім па вялікім рахунку вінаватым сябе не прызнае. Як і Аляксей Шыдлоўскі, ён не адмаўляецца ад палітычнай барацьбы з рэжымам, але прызнае, што «гэта трэба рабіць законнымі сродкамі».



*Вадзім Лабковіч і Аляксей Шыдлоўскі ў судзе.*

У першы ж дзень суда былі заслуханы тры сведкі. Галоўны сярод іх — супрацоўнік Стаўбцоўскай пажарнай аховы Валерый Ілюшын, які заявіў, што бачыў ноччу 3 жніўня, як нейкія хлопцы распісвалі будынак бібліятэкі. Ілюшын ехаў на сваім «фольксвагене» і ў святле фараў распазнаў сярод «хуліганаў» Шыдлоўскага, якога ведаў раней. Па словах Ілюшына, ён выйшаў з машыны і забраў у Шыдлоўскага два балончыкі з аэразолем. Назаўтра Ілюшын патэлефанаваў Шыдлоўскаму дадому. Навошта? Як сцвярджае Шыдлоўскі, Ілюшын званіў і патрабаваў «за маўчанне». Ілюшын рашуча адмаўляецца, што вёў шантаж.

Іншыя сведкі — настаўнік Сяргей Шэндзік і студэнт Уладзімір Букіноўскі — самі нікога з падсудных падчас «злачынных дзеянняў» не бачылі. Пры гэтым іхнія паказанні пра некаторыя абставіны справы разыходзяцца з тым, што сцвярджаў першы сведка. Навошта ж было прыцягваць іх да справы? Магчыма, што толькі дзеля таго, каб не пакінуць пажарнага Ілюшына ў адзіноце. Бо надта ж дзіўнымі падаюцца ягоныя паводзіны. Па словах Шыдлоўскага, Ілюшын неаднаразова рабіў захады, каб яму заплацілі «за маўчанне», а калі нічога не атрымалася — «залажыў».

У чацвер суд заслухаў у якасці сведкаў таксама Ядзвігу Лабковіч, маці Вадзіма, і ягоную настаўніцу Варвару Кароль. Жанчыны сцвярджалі, што юнак адрозніваўся добрымі паводзінамі, вучыўся на 5 і 4 і рана вызначыўся са сваімі палітычнымі поглядамі. Пасля вывучэння пісьмовых матэрыялаў справы суддзя Уладзімір Лаўроў абвесціў перапынак да панядзелка. Чарговае паседжанне пачнецца з прамовы пракурора Дзмітрыя Цімафеева. Ён і абвесцілі пакаранне, якое пракуратура просіць вынесці Аляксею Шыдлоўскаму і Вадзіму Лабковічу.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Беларусь і Іран плануюць падпісаць пагадненне аб продажы зброі

**Біл ГЕРЦ,**
***The Washington Times***

Паводле звестак, атрыманых з ЦРУ, прэзідэнт Беларусі збіраецца заключыць сакрэтнае пагадненне з Іранам аб продажы ваеннай тэхнікі і запасных частак для іранскіх танкаў і бронетранспарцёраў.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падпіша пагадненне падчас сваёй паездкі ў Тэгеран, якая мае адбыцца на пачатку сакавіка.

Афіцыйныя асобы з урада ЗША, азнаёмленыя з запланаванай здзелкай, зазначылі, што гэта новае сведчанне таго, што Беларусь аддаляецца ад дэмакратыі і сувязяў з Захадам і набліжаецца да злачынных дзяржаваў накшталт Ірана.

Амерыканскія афіцыйныя асобы таксама баяцца, што Беларусь можа стаць каналам для перадачы Ірану расійскай ракетнай і ядзернай тэхналогіі. Адміністрацыя Клінтана на працягу апошняга года беспаспяхова спрабавала спыніць паток расійскай ракетнай тэхналогіі ў Іран.

*«Паміж Расіяй і Беларуссю вялікай розніцы няма, і ясна, што Беларусь у гэтай справе дзейнічае як падстаўны агент Расіі»*, — сказаў адзін прадстаўнік міністэрства абароны ЗША пра сакрэтнае ваеннае супрацоўніцтва з Іранам.

Паводле звестак ЦРУ, пагадненне з Іранам прадугледжвае продаж танкавых рухавікоў і запасных частак, а таксама акрэслівае планы пабудовы танкарамонтнага завода. Ваеннае супрацоўніцтва будзе таксама ўключаць у сябе перадаванне танкавай тэхналогіі, якая патрэбная Ірану дзеля ўтрымання і абнаўлення сваіх танкаў Т-55, Т-62 і Т-72.

Іранскія і беларускія афіцыйныя асобы дамовіліся аб захаванні сакрэта вакол ваеннага пагаднення. Публічна будзе паведамляцца, што падчас візіту маюць быць умацаваныя неакрэсленыя падрабязна «сяброўскія сувязі», — паведамляе тая самая крыніца, якая зазначыла, што дэталі гэтай інфармацыі былі атрыманыя адной замежнай разведкай.

Сакрэтныя перамовы вяла другая асоба беларускай дыпламатыі ў Тэгеране — былы афіцэр, чыё прозвішча крыніцам інфармацыі ўдалося ідэнтыфікаваць як Рыбак.

Пытанне аб ваенным супрацоўніцтве ўзнімаў напрыканцы года міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч падчас сваіх перамоваў у Тэгеране з віцэ-прэзідэнтам Ірана Хасанам Хабібі і міністрам замежных справаў Камалем Харазі.

Беларусь мае 1.778 танкаў савецкіх мадэляў, а Іран — каля 1.400. Паводле леташняй сакрэтнай справаздачы ЦРУ, у 1996—1997 гадах Тэгеран закупіў пяць партыяў танкаў Т-72 у Польшчы. Далейшыя кантракты былі скасаваныя пад ціскам з боку Злучаных Штатаў.

*(Працяг на стар. 2)*

## 15 сутак за «Свабоду палітвязням»

**15 сутак арышту атрымаў актывіст БНФ Віцебска Юрась Мароз за тое, што стаяў з плакатам «Свабоду палітвязням» каля будынка Мінскага абласнога суда, дзе судзяць Лабковіча і Шыдлоўскага.**

Мароз быў збіты і арыштаваны мінскімі міліцыянтамі. Залітага крывёю хлопца завезлі спачатку ў міліцэйскі пастарунак, а праз некалькі гадзінаў даставілі ў суд Ленінскага раёна. Суддзя Церашкова дала Марозу 15 сутак арышту.

Дарэчы, гэта не першая адсідка Юрася Мароза. У Віцебскім СІЗО ён ужо правёў у агульнай колькасці 23 дні за ўдзел у розных несанкцыянаваных акцыях. Акрамя таго, на ім «вісіць» 9 мільёнаў рублёў штрафу. У Мінск ён прыехаў спецыяльна, каб выказаць падтрымку Лабковічу і Шыдлоўскаму.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Працяг турнэ па Азіі

**Не сустрэўшыся ў Японіі з вышэйшым кіраўніцтвам гэтай краіны, прэзідэнт Лукашэнка вырашыў кампенсаваць няўдачу наведваннем некаторых расійскіх рэгіёнаў.**

Як нам паведамілі ў міністэрстве замежных справаў, на адваротным шляху з Нагана самалёт А.Лукашэнкі зробіць 23 лютага прыпынак ва Уладзівастоку. Рыгоравіч плануе сустрэцца з губернатарам Прымор'я Яўгенам Наздраценкам, які вядомы сваім апазіцыйным стаўленнем да Крамля. Наступны дзень Лукашэнка правядзе ў Навасібірску, дзе пасля сустрэч з мясцовым чынавенствам ён збіраецца выступіць перад супрацоўнікамі Сібірскай акадэміі навук.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Чысты шпрыц для наркамана

**У Мінску плануецца арганізаваць некалькі пунктаў, дзе наркаманы змогуць абмяняць ужываныя шпрыцы на стэрыльныя.**

За мінулыя дзесяць гадоў у Мінску было афіцыйна зарэгістравана 180 ВІЧ-інфіцыраваных, з іх 88 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі зарэгістраваныя ў 1997 годзе. Па прагнозах спецыялістаў, сітуацыя з распаўсюджваннем ВІЧ-інфекцыі ў Беларусі будзе пагаршацца. Сёння асноўнай крыніцай хуткага яе распаўсюджвання з'яўляецца асяроддзе шпрыцавых наркаманаў. У сталіцы, па інфармацыі спецыялістаў, на ўліку стаяць 770 наркаманаў, аднак сапраўдная іх колькасць прыкладна ў 10-12 разоў большая. У сувязі з гэтым у Мінску плануецца адкрыць некалькі пунктаў абмену шпрыцаў для наркаманаў. Два падобныя абменныя пункты ўжо створаныя і дзейнічаюць у Светлагорску — горадзе Гомельскай вобласці з самым высокім паказчыкам захворвання на СНІД. У гэтых пунктах наркаманы могуць не толькі абмяняць шпрыц, але і атрымаць неабходную прафілактычную літаратуру і прэзерватывы.

Аб эфектыўнасці падобных метадаў прафілактыкі красамоўна гавораць лічбы статыстыкі: толькі за паўгода ў двух пунктах Светлагорска зарэгістравана больш чым 8 тысячаў наведванняў, абмяняна 18 тысячаў шпрыцаў.

*БелаПАН*

## Урад зачыняе партыі

**Міністэрства юстыцыі бліжэйшым часам мае намер паставіць перад судом пытанне аб ліквідацыі некаторых палітычных партыяў.**

Як заявіў міністр юстыцыі Беларусі Генадзь Варанцоў, у ліку партыяў, якія падлягаюць закрыццю, — Партыя аматараў піва, Народная партыя «Ачышчэнне», Народная партыя «Адраджэньне», Усебеларуская партыя адзінства і згоды, Беларускі навукова-вытворчы кангрэс. Па словах міністра, можа быць спынена таксама дзейнасць тых партыяў, якім мінюст неаднаразова на працягу года накіроўваў папярэджанні. Так, па звестках Генадзя Варанцова, за паўтара месяца 1998 года з 64-х папярэджанняў, зробленых міністэрствам юстыцыі, 23 адрасаваныя палітычным партыям.

На сёння ў Беларусі, сказаў міністр, зарэгістраваныя 46 палітычных партыяў, 56 свабодных прафсаюзаў і больш за 1.000 грамадскіх аб'яднанняў і фондаў, 180 з якіх — «па чарнобыльскай тэматыцы». Рэальна ж сёння, па словах Варанцова, дзейнічаюць толькі 35 палітычных партыяў і аб'яднанняў.

*Інтэрфакс — БелаПАН*

## Па слядах Жырыноўскага

**Скандальная слава Жырыноўскага не дае спакою ягоным беларускім паплечнікам. У Ірак накіравалася беларуская дэлегацыя на чале са старшынёй ЛДПБ С.Гайдукевічам.**

Учора група, у якую, акрамя Сяргея Гайдукевіча, уваходзяць дэпутаты-камуністы з прэзідэнцкай палаты Ігар Катляроў і Валерый Драко, а таксама актывісты нядаўна створанага таварыства беларуска-іракскай дружбы (усяго каля 10 чалавек), мела вылецець у Іярданію, а ўжо адтуль на машынах дабрацца да Багдада. У адрозненне ад нядаўняй місіі Жырыноўскага, Гайдукевіч вырашыў дзейнічаць больш асцярожна і загадзя атрымаў дазвол ад міжнародных структураў. Следам за дэлегацыяй у Ірак наземным шляхам павінен прыбыць гуманітарны груз медыкаментаў і харчавання. Па словах Гайдукевіча, іхнюю паездку і гуманітарны груз аплацілі патрыятычна настроеныя прадпрымальнікі. Беларускія сябры Ірака, якія выступаюць за ўрэгуляванне канфлікту дыпламатычнымі метадамі, збіраюцца прабыць у Багдадзе каля тыдня, наведаць некаторыя прэзідэнцкія аб'екты, дзе, на думку міжнародных назіральнікаў, выраблялася зброя масавага знішчэння, а таксама сустрэцца з іракскім прэм'ер-міністрам.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Беларусь і Іран плануюць падпісаць пагадненне аб продажы зброі

*(Пачатак на стар.1)*

Генры Сакольскі, дырэктар амерыканскага Адукацыйнага цэнтра палітыкі непашырэння ядзернай зброі, сказаў, што найбольш у падрыхтоўцы гэтага пагаднення яго непакоіць сакрэтнасць, якая можа адкрыць перад Беларуссю дарогу да продажу іншай ваеннай тэхнікі, прыкладам, ракетных транспарцёраў.

Амерыканскі спадарожнікшпіён сфатаграфаваў у 1996 годзе шасі беларускага грузавіка МАЗ на тэрыторыі ракетнага завода ў Кітаі, дзе распрацоўваюцца новыя кітайскія ядзерныя ракеты далёкага радыусу дзеяння. Шасі было той самай мадэлі, якая выкарыстоўвалася для транспарцёраў савецкіх ракет сярэдняга радыусу дзеяння. У справаздачы Нацыянальнага цэнтра паветранай разведкі Паветраных сілаў ЗША гаворыцца, што шасцівосевыя шасі былі заўважаныя на ракетным заводзе Бэйцзін Наньюань, дзе будуюцца найноўшыя кітайскія стратэгічныя ракеты *DF-31*.

Беларуска-іранскае пагадненне аб супрацоўніцтве можа быць таксама карыснае і для Расіі. *«У якасці падстаўных асобаў руския будуць выкарыстоўваць любога, каго толькі змогуць»,* — сказаў сп.Сакольскі.

Прэс-сакратар ЦРУ адмовіўся каментаваць гэтую інфармацыю.

Супрацоўнік беларускай амбасады Валянцін Рыбакоў заявіў, што міністэрства замежных справаў Беларусі «на гэтым этапе не ведае» аб запланаваным падпісанні ваеннага або тэхнічнага пагаднення падчас візіту Лукашэнкі ў Тэгеран 6—9 сакавіка.

На думку экспертаў, продаж Ірану танкавых запасных частак не парушае ніякіх міжнародных пагадненняў.

Адміністрацыя Клінтана пастанавіла, што продаж Кітаем Ірану антыкарабельных крылатых ракетаў высокай хуткасці, што выглядае парушэннем амерыканскага заканадаўства аб непашырэнні ракетнай зброі, не выклікае «дэстабілізацыі», а таму не дае падставаў для эканамічных санкцыяў ЗША супраць Пекіна.

Дэлегацыя беларускіх афіцыйных асобаў наведала Іран 2 лютага, узяўшы ўдзел у сустрэчы супольнай камісіі абедзвюх краінаў па справах эканамічнага супрацоўніцтва. У дэлегацыю ўваходзілі прадстаўнікі розных міністэрстваў, а таксама дырэктар Мінскага трактарнага завода, які, на думку амерыканскіх афіцыйных асобаў, можа быць галоўным кантрактарам у справе ваеннага танкарамонтнага завода.

Былы пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц заявіў, што часткова адказнасць за тое, што Беларусь павярнула да «нэасталінізму», нясе адміністрацыя Клінтана. Сп.Суорц у сваіх артыкулах і публічных выступах неаднаразова зазначаў, што апарат Савета бяспекі Белага дома і Строўб Тэлбат, сённяшні намеснік дзяржаўнага сакратара, не здолелі забяспечыць беларускіх дэмакратаў-рэфарматараў неабходнай амерыканскай эканамічнай і тэхнічнай дапамогай у вырашальны перыяд на пачатку 90-х гадоў. Замест гэтага 200 мільёнаў долараў было кінута на падтрымку ў Беларусі аджылай савецкай калгаснай сістэмы. Вынікам гэтай палітычнай памылкі стала выцясненне дэмакратаў-рэфарматараў з урадавых колаў у Мінску.

*The Washington Times, 17 лютага 1998 г.*

## Чыкін і кампанія збіраюцца святкаваць стагоддзе РСДРП

**Як паведаміў першы сакратар ЦК КПБ Віктар Чыкін, ягоная партыя падрыхтавала шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да стагоддзя правядзення ў Мінску першага з'езда Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі.**

Камуністы плануюць правесці 14 сакавіка ў Мінску навуковатэарэтычную канферэнцыю, прысвечаную РСДРП, на якой выступяць беларускія і расійскія даследчыкі «левага толку». А 15 сакавіка чакаецца «ўрачыстае паседжанне». Па словах сакратара ЦК КПБ Ігара Катлярова, у Мінск паабяцалі прыехаць Г.Зюганаў, А.Рубікс, А.Шэнін, лідэры ўсіх камуністычных партыяў рэспублік былога СССР.

Такім чынам, камуністы ўсё яшчэ намагаюцца прадставіць гісторыю партыі Леніна даўжэйшай, чым яна была на самой справе. Але калі ўважліва пагартаць старонкі гісторыі, відавочна, што камуністы прыхапілі чужую спадчыну.

— Гэта быў устаноўчы з'езд сацыял-дэмакратычнай партыі еўрапейскага тыпу, — гаворыць дырэктар Дома-музея першага з'езда РСДРП Сяргей Сіманюкоў. — Дарэчы, спачатку яна называлася проста «Расійская сацыял-дэмакратычная партыя», рабочай яна стала ўжо пазней.

З'езд праходзіў у Мінску 13—15 сакавіка 1898 года. У працы з'езда бралі ўдзел прадстаўнікі найбольш актыўных тагачасных сацыял-дэмакратычных арганізацыяў, сярод якіх былі і сябры Бунда, або «Усеагульнага габрэйскага рабочага саюза у Расіі і Польшчы». На з'ездзе было вырашана аб'яднаць разрозненыя мясцовыя партыі ў агульнарасійскую сацыял-дэмакратычную партыю.

Гістарычныя дакументы сведчаць, што ніхто з удзельнікаў першага з'езда РСДРП пазней не падтрымаў бальшавікоў, болей таго, некаторыя дэлегаты назаўсёды з'ехалі за мяжу. Але, нягледзячы на гэта, пасля ўсталявання савецкага ладу ў Расіі першы з'езд РСДРП сталі лічыць першым у гісторыі ВКП(б)-КПСС. Відаць, таму што стварэнне РСДРП у той час горача падтрымаў Ленін. Дарэчы, хоць Леніна не было на тым з'ездзе, да 1992 года ў экспазіцыі Дома-музея знаходзілася болей за 50 партрэтаў Ільіча.

Сакратар ЦК КПБ Ігар Катляроў паведаміў, што 15 сакавіка ў Доме-музеі першага з'езда РСДРП адбудзецца ўрачыстая цырымонія падпісання гэтак званай «Мінскай дэкларацыі» — аб'яднальнага дакумента для ўсіх камуністычных партыяў, прычым не толькі з краінаў былога СССР. Але дырэктар Домамузея лічыць, што нічога ў камуністаў не атрымаецца, бо ў памяшканні музея няма месца для правядзення такой акцыі. «Гэта ўсё палітычныя гульні, а музей — гэта навуковая ўстанова, дзе гульням не месца», — кажа ён.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Рабін засеў у Мінску

**Рабін Вэлвл Табак не можа выехаць з Мінска дадому ў Амерыку: яму забаронена пакідаць Беларусь да заканчэння следства.**

Вэлвл Табак быў галоўным рабінам Беларусі ў 1995-1996 гадах. У канцы мінулага месяца ён правёў у Мінску дзень пад арыштам па абвінавачванні ў спробе незаконнага вывазу каштоўных габрэйскіх кніг з Беларусі. На наступны дзень яго вызвалілі пад паручыцельства пасольства ЗША ў Мінску — аднак абвінавачванні з яго не знятыя, выехаць за мяжу ён не можа. Гэта не першы канфлікт: у красавіку мінулага года беларускія мытныя ўлады не дазволілі рабіну вывезці з краіны некалькі габрэйскіх кнігаў XVIII стагоддзя, якія ён набыў у Беларусі. Тады і распачалі справу па падазрэнні ў кантрабандзе.

У студзені 1998 года Табак зноў з'явіўся ў Беларусі — упершыню пасля красавіцкага інцыдэнту — і быў арыштаваны беларускім КДБ. Паведамленні аб гэтым арышце прайшлі па Беларускім дзяржаўным тэлебачанні, у якіх затрыманы кваліфікаваўся як амерыканскі грамадзянін, аднак яго рэлігійны тытул не ўзгадваўся.

*БелаПАН — JTA*

### КАДРЫ



*У Японіі моцны снег перашкодзіў нашым біятланістам атрымаць медалі, а ў Беларусі цёплая зіма пасадзіла дзяцей на ровары.*

## *Просім удакладніць*

У газеце НАВІНЫ за 18 лютага была змешчаная нататка пад назвай «БНФ рыхтуе пашпарты». На наш погляд, карэспандэнт даў не зусім дакладнае тлумачэнне інфармацыі з прэс-канферэнцыі Беларускага Народнага Фронту, якая адбылася 16 лютага. Гаворка не можа ісці пра выдачу пашпартоў грамадскай арганізацыяй: на гэта мае законнае права толькі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пачатак акцыі ўступлення ў грамадзянства БНР — як праобраза будучай свабоднай Беларускай дзяржавы — сапраўды запланаваны на бліжэйшы час Беларускім Народным Фронтам. Гэтая акцыя будзе праводзіцца пад дэвізам «Беларуская Народная Рэспубліка ў XXI стагоддзі».

**Прэс-служба БНФ «Адраджэнне»**

# Магілёў гандлюе

**Рынкі Магілёва пачалі працаваць: прадпрымальнікі спынілі забастоўку. Чакаецца, што да нядзелі на працу выйдуць усе гандляры.**

Страйк працягваўся даволі доўга — амаль 20 дзён, і ў акцыі пратэсту ўдзельнічала больш за шэсць прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынках, — прыкладна 3 тысячы чалавек, паведаміў карэспандэнту НАВІНАЎ старшыня магілёўскай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Сяргей Абадоўскі. І гэта нягледзячы на тое, што ўлады імкнуліся спыніць забастоўку. Па словах прадпрымальнікаў, гандляваць у Магілёў былі запрошаныя дробныя гандляры з Мінска, якім далі памяшканні Палаца піянераў. Але забастоўка працягвалася, і па падліках Свабоднага прафсаюза, да якога належаць шмат магілёўскіх прадпрымальнікаў, страты гарадскога бюджэту склалі больш за 5 млрд. рублёў.

Як ужо зазначалі НАВІНЫ, у адрозненне ад астатніх гандляроў, магілёўскія чаўнакі не скончылі забастоўку, калі было прынятае дэкляраванне сукупнага гадавога даходу і перараздзел падаходнага падатку. Заставалася праблема сертыфікацыі і гігіенічнай рэгістрацыі тавараў: пры ўсёй сваёй неабходнасці гэтая фармальнасць аказалася вельмі дарагой для прадпрымальнікаў. Іх прымусілі праходзіць гэтыя працэдуры не ў Магілёве, а ў Мінску, прычым на сертыфікацыю неабходна адпраўляць 3 экземпляры з кожнай партыі тавару і адзін экземпляр на гігіенічную рэгістрацыю. Тавары гэтыя не вяртаюцца (што прадпрымальнікі разглядаюць як афіцыйны рэкет з боку дзяржавы), а кошты сертыфікацыі даходзяць да 4 млн. рублёў, гігіенічнай рэгістрацыі — два мільёны рублёў. Прадпрымальнікі не супраць рэгістрацыі і сертыфікацыі, але не з такімі ж выдаткамі. У выніку забастоўкі ўлады звярнулі ўвагу на гэтыя праблемы і пакуль перасталі штрафаваць гандляроў.

Але калі ўлады не прымуць ніякага пастаяннага рашэння і адначасова эканамічныя рэпрэсіі — прадпрымальнікі плануюць аднавіць забастоўку. Да іх, магчыма, далучацца і прадпрымальнікі іншых гарадоў Беларусі. Так, на мінскім «Дынама» ўжо плануецца правесці аднадзённую забастоўку салідарнасці. А 1 сакавіка ў Магілёве павінны адбыцца мітынг і шэсце, аналагічнае мінскаму, — «пахаванне вольнага прадпрымальніцтва».

**Алесь САДОЎСКІ**

# Дзікае паляванне

Алег **ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

**Арышты прадстаўнікоў беларускай эліты сталі ў краіне звычайнай з'явай. Такое ўражанне, што нехта склаў спіс прозвішчаў, крыжыкамі вызначыў галоўных і перадаў паперу нашай Фемідзе. Хоць гэтая дама і з завязанымі вачыма, але мы бачым, што дзейнічае яна вельмі выбарачна і мэтанакіравана. Застаецца адкрытым толькі пытанне, хто і навошта паставіў ёй гэтую мэту.**

Беларуская эліта ўзору 1994 года адрозніваецца ад сённяшняй перш за ўсё сваёй рэпутацыяй. Гэта была рэпутацыя жанчыны распутнай, але ўсё ж замужняй. Яна гандлявала направа і налева сваімі вартасцямі, трымаючы марку чэснай. Ад публічных скандалаў яе выратоўвала правіла «не выносіць смецце з хаты», якога эліта прытрымлівалася па звычцы савецкіх часоў. Але з прыходам першага беларускага прэзідэнта правілы змяніліся. Паколькі эліта не здолела прымусіць Лукашэнку падзяліцца часткай улады, атрыманай у ліпені 1994 года, яе функцыя звузілася да сціплай ролі «абслугоўваючага персаналу». Страціўшы статус жонкі і стаўшы «жанчынай па выкліку», прыйшлося пагадзіцца і на тое, што будуць нахіляць долу ды публічна падымаць спадніцу, каб прадэманстраваць тваю непрыкрытую грахоўнасць. За два апошнія гады ў гэтай «пазіцыі» ўжо пабывалі прыкладна два дзесяткі вельмі вядомых беларусаў.

Усё ж першыя два гады праўлення Лукашэнкі шырокія народныя масы правялі ў дарэмным чаканні абяцаных працэсаў над карупцыянерамі. Улады абмежаваліся некалькімі прадпрымальнікамі, а з дзяржчыноўнікаў чыстка тады нікога не закранула. З больш-менш гучных прозвішчаў на слыху былі толькі два: кіраўнік першага інвестыцыйнага фонду Аляксандр Саманкоў, які быццам бы прапаноўваў хабар будучаму міністру прадпрымальніцтва А.Сазонаву. Другая ахвяра — стваральнік беларускай фінансавай піраміды «Сэкай» Валерый Буяк, якога абвінавацілі ў ашуканні тысячаў укладчыкаў. Абодва былі кінутыя за краты, дзе знаходзяцца ўжо амаль два гады, віна абодвух дагэтуль не даказаная. І ёсць сумненні, ці ўвогуле можа быць даказаная. Справу Саманкова, напрыклад, суд нядаўна адправіў на даследаванне. На думку адвакатаў, ёсць яўныя прыкметы вымагальніцтва хабару з боку дзяржаўнага чыноўніка. Нават з гэтай гісторыі бачна, што яшчэ ў 1995 годзе чыноўнікі адчувалі сябе ў значна большай небяспецы, чым прадпрымальнікі, якія хадзілі да іх на паклон, каб атрымаць нейкія прэферэнцыі ў бізнесе. Чыноўнікаў задавальняла, што групай рызыкі наверсе абраныя не яны, а менавіта бізнесоўцы.

Над галавой чынавенства па-сапраўднаму грымнула ў пачатку 1997 года, калі арыштавалі старшыню Нацбанка Тамару Віннікаву. Вопытныя людзі адразу зразумелі, што гэта не проста арышт, а пачатак новай палітыкі. Выпрабаванні скончыліся. Па-сапраўднаму ўводзілася мадэль уздзеяння на электарат шляхам арыштаў відных асобаў. Пры гэтым «ахвяры» будуць падбірацца такія, каб адным ударам дасягнуць максімальнага эфекту. Канец 1997 года даў некалькі такіх прыкладаў. Спачатку арыштавалі двойчы героя сацпрацы, аксакала беларускай сельскай гаспадаркі Васіля Старавойтава. Тым самым быў пастаўлены на калені ўвесь корпус «чырвоных памешчыкаў», якія разам са Старавойтавым марылі аб акцыянерных таварыствах на дзяржаўнай беларускай зямлі. Наступны арышт — былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава канчаткова дабіў усіх аграрыяў. І старшыняў гаспадарак, і дырэктараў перапрацоўчых прадпрыемстваў, якія звязаныя паміж сабой цесным сябраўствам. Як асобная палітычная сіла яны больш не існуюць.

Пачатак 1998 года даў новыя прыклады. Асуджаны, хаця і ўмоўна, журналіст Павел Шарамет. Уладальніка «Пушэ» Аляксандра Пупейку абвясцілі махляром і злодзеем (толькі знаходжанне за мяжой выратавала яго ад «амерыканкі»). Нечакана «загрымеў» у турму падначалены Ціцянкова Валерый Папоў. І, нарэшце, самая галоўная сенсацыя новага паляўнічага сезону — арышт прадпрымальніка і дэпутата Вярхоўнага Савета Андрэя Клімава.

Калі разглядаць гэтыя прыклады паасобку, яны быццам не маюць унутранай сувязі. І ўсё ж... Прааналізуем сітуацыю з пункту гледжання палітычнай перспектывы Беларусі на будучы год. Менавіта ў 1999 годзе (згодна з Канстытуцыяй 1994 года) Лукашэнка павінен правесці новыя прэзідэнцкія выбары. Калі ён гэтага не зробіць, то за легітымнага прэзідэнта яго ўжо ніхто, акрамя Расіі, трымаць не будзе. Хутчэй за ўсё, і Расія, уцягнутая ў сістэму міжнародных адносінаў значна глыбей, чым Беларусь, паставіць перад беларускім лідэрам умову падмацаваць сваё становішча другімі выбарамі. Ды яго і ўгаворваць асабліва не прыйдзецца: выбары для Лукашэнкі як «свята душы», ён іх гатовы паўтараць на біс, як рэферэндум.

Адна праблема яго безумоўна турбуе: не проста перамагчы, а перамагчы з унушальнай перавагаю. Але каб гэта адбылося, трэба мець слабога саперніка. Вопыт апошніх прэзідэнцкіх выбараў у Расіі даказаў, што на постсавецкай прасторы нават з 5-ці працэнтаў рэйтынгу можна зрабіць 70, калі ў тваіх руках тэлебачанне і грошы, а ў тваёго саперніка няма ні таго, ні другога. Хто мог бы падкласці «свінню» беларускай прапагандысцкай машыне на будучых прэзідэнцкіх выбарах? У першую чаргу, расійскае тэлебачанне. Рэпрэсіі супраць Паўла Шарамета з адначасовым заключэннем «міру» з ОРТ, РТР ды НТВ даюць магчымасць вырашыць гэтае пытанне. Але засталіся яшчэ ў беларускай апазіцыі фінансавыя «мецэнаты», у тым ліку сярод суайчыннікаў. Дзе гарантыя, што яны, як гэта было ў 1994 годзе, не падсілкуюць дэмакратаў? Не выключана, што дзеля гэтага зноў абраны правераны метад «барацьбы з нячэснымі бізнесменамі», у які патрапілі спачатку Пупейка, а цяпер і Клімаў. Першы за тое, што на мінулых выбарах адмовіўся даваць грошы на выбарчую кампанію Лукашэнкі, другі — за сваю антылукашэнкаўскую актыўнасць у апошнім законным парламенце. Хто наступны?

# Криминальный контроль

Константин **СКУРАТОВИЧ**

В прошлом году статистика зафиксировала некоторое сокращение преступности среди несовершеннолетних. Но это обстоятельство не может радовать: несмотря на уменьшение общего количества преступлений, малолетки все больше перенимают опыт матерых уголовников.

Чаще, чем когда-либо ранее, подростки становятся убийцами. Насилие все больше распространяется в молодежной среде, а тяжкие преступления из разряда случайных, немотивированных переходят в преступления по плану и расчету. Причем подростки все чаще становятся координаторами и организаторами тяжких преступлений.

## В лучшем случае – нокаут

Недавно в Витебске осуждена группа из семнадцати подростков, которые в течение двух лет занимались грабежом и разбоем.

Начинали ребята как «добровольные помощники» милиции, выслеживая подвыпивших граждан и изымая деньги и иные ценности. Правда, писем с требованием применить меры общественного воздействия на работу вывихам не высылали: отрезвляли на месте с помощью кулаков, ног и чего придется. Постепенно вошли во вкус, превратив разбойные нападения в повседневную и рутинную работу. Все бандиты, за исключением одного, были несовершеннолетними, никто до момента задержания на учете в милиции не состоял.

Но милиция тоже не дремлет. В Орше, где проживает менее 140 тысяч человек, ею зафиксировано 13 антиобщественных молодежных группировок. А это (если судить по среднестатистическому распределению населения по возрасту) означает, что на каждую тысячу оршанских подростков приходится одна организованная группировка молодых преступников. Кроме тех, которые милицией не выявлены.

Конечно, не каждый подросток вовлечен в преступную деятельность, но в поле внимания молодежной «коза ностры» находится каждый, и каждый может стать объектом преступного посягательства в любой момент. Причем везде и повсюду: в школе, ПТУ, техникуме, на улице и дома. Особую опасность представляют места молодежных тусовок, где криминальность развивается в атмосфере сугубого корыстолюбия и где, как об этом свидетельствуют милицейские сводки, прогрессирует преступность, связанная с наркотиками. В этом смысле прошлый год, давший 41% роста по этой статье, не оставляет никаких шансов для оптимизма.

За последние пять лет количество преступлений, совершенных наркоманами в Беларуси, возросло в 15, оборот наркотиков — в 13, изготовление наркотических веществ — в 22 раза. По оценкам экспертов ООН, количество наркоманов в Беларуси в настоящее время приближается к 20 тысячам человек, а к 2000 году может достичь и 90 тысяч.



IREX ProMedia

*В крупных городах у подростков есть относительно законный способ получения денег — они моют машины, как эти ребята на Центральной площади в Минске. Но и здесь зачастую действуют криминальные правила: сегодня не заплатишь — в следующий раз автомобиль исцарапают.*

Недавно в Гродно школьники-токсикоманы использовали семилетнего мальчика в качестве «подопытного кролика». Исход летальный. Вечером на улицы города просто опасно выходить: если не повезет и придется столкнуться с агрессивными юнцами, то, в лучшем случае, прохожего отправят в нокаут, в худшем — изобьют ногами до смерти, как это в новогоднюю ночь случилось с юношей, защищавшим двух девушек-одноклассниц.

Впрочем, грабежи и даже угон автомобилей преимущественно дают выход нереализуемой в обычных условиях агрессии, лишней энергии. В отличие от них, торговля наркотиками, рэкет и организованная проституция создают материальную основу настоящего криминалитета. В конечном итоге, мафиозный вариант развития — это не столько удел бедных стран, сколько обществ, которые не имеют ясного представления о социальных приоритетах и, как следствие, в них отсутствуют подходы к решению самых важных проблем. Именно этим и отличается современная Беларусь.

## Синдром маньяка

Все дело в том, что власть самоустранилась от реальных повседневных интересов населения. Осенью в Витебске, например, совершено несколько зверских убийств с ограблением. По городу бродят слухи о маньяке, который рубит головы всем без разбора. Городские власти пробуют сказать, что не бродит и не рубит, но степень доверия к чиновникам и официальной информации такова, что многие горожане каждый день «видят» зарубленных и рассказывают об этом друг другу.

В Толочине накануне 80-летия Октябрьской революции (радость-то какая!) молодые вандалы разрушили памятники на еврейском кладбище. Такие надругательства (и не только над захоронениями евреев) стали совершаться повсеместно. Равно повсеместны проявления немотивированной агрессивности по отношению к социокультурной среде. Все, что может быть уничтожено с помощью ножа, камня и тому подобных орудий, — уничтожается. Атрибутами повседневного быта стали изрезанные сиденья в общественном транспорте, оборванные трубки в таксофонах, разбитые светильники. В ночных электричках, курсирующих между столицей и провинцией, царит атмосфера криминального пьяного террора.

В прошлом году несовершеннолетним был каждый девятый выявленный преступник, а из общего числа преступников 41% на момент совершения преступления нигде не работал и не учился. Из этого следует, что молодежная преступность гораздо выше безработицы. В 1997 году именно молодежь больше всего страдала от отсутствия постоянной занятости. Впрочем многие из них не утруждали себя поисками работы еще со времен перестройки, когда либерализация трудового законодательства избавила от опасности быть привлеченным к уголовной ответственности за тунеядство. За эти 10 лет круг молодых людей-иждивенцев, пробавляющихся случайными заработками, воровством или просто живущих на пенсии родителей, резко расширился.

Совершенно закономерно поэтому, что с 1990 года общая численность только зарегистрированных преступлений увеличилась в 1,7 раза, но среди них тяжких — почти в пять раз. Причем отличие криминальной статистики от производственной и прочих заключается в том, что она никогда не бывает полной и ее показатели отражают только видимую часть криминальной сферы. Основание айсберга не описывается в отчетах.

Поэтому исходя из повседневного опыта можно сказать, что некоторые города Беларуси по уровню криминализации напоминают Чикаго, а прочие превратились в зоны, где в светлое время суток власть принадлежит официальной, а в темное — уголовной власти. А порой те и другие правят общими усилиями.

## «Забяры, цётка, сваю заяву»

Что касается сельской местности, то преступность здесь имеет почти исключительно алкогольно-бытовой характер. На этой почве совершается большинство убийств и других тяжких преступлений, а мелкая преступность приобрела тотальный характер. Крадут все, что можно продать и пропить, на предмет изъятия спиртного регулярным нападениям подвергаются сельмаги, равно как и хозяйские погреба да сараи.

При этом милиция в раскрытии таких преступлений демонстрирует едва ли не полное бессилие. За исключением бытовых преступлений и других деяний, совершаемых, что называется, на виду. К кражам обычно подходят так: «Цётка, вы можа ведаеце, хто вашыя калёсы ўкраў?» А «цётка», может, и знает, да сказать при такой милиции боится: вор может вполне остаться на свободе, а с ним еще придется жить по соседству. И дело чаще всего заканчивается просто: пострадавшему предлагают забрать исковое заявление, чтобы снять «висяк» из милицейской отчетности.

## Без этики

Прежнее правило, «воруй, но не попадайся» — многократно усилилось. И в складывающейся системе отношений нет места никакой этике: ни православной, ни протестантской, ни коммунистической. У маргиналов ее и быть не может. Вернее так, маргинальная социальность тоже организуется вокруг собственных ценностей и авторитетов.

Среди них есть натуральные бомжи, но есть (прежде всего среди молодежи) и бомжи духовные. За влияние среди них борются не только политические партии и движения, но и более агрессивные и влиятельные персоны. Будь на то желание, можно легко убедиться в том, что белорусские города давно разделены на сферы влияния между, например, «нацистами» и «сатанистами», которые к тому же одновременно состоят, допустим, в каком-нибудь «...союзе молодежи». Интересы весьма тривиальные — деньги от наркобизнеса, сутенерства, контрабанды и тому подобного.

Понятно, что рядом с молодежными лидерами представлены и более крутые фигуранты, которые накапливают резервы. Для чего? — вопрос, не требующий ответа.

# Пятля для

**Сяргей НАВУМЧЫК**



Выканкам Аб'яднанай грамадзянскай партыі выказаўся за захаванне пасады прэзідэнта і нават заявіў, што распачынае рыхтавацца да прэзідэнцкіх выбараў. *«Старшыня АГП С.Багданкевіч адзначыў, што, адпаведна Канстытуцыі 1994 года, Беларусь з'яўляецца рэспублікай з прэзідэнцкай формай праўлення, таму ініцыятывы некаторых прадстаўнікоў дэмакратычных сілаў па ліквідацыі пасады прэзідэнта не маюць заканадаўчых падставаў. Багданкевіч таксама лічыць, што ў тым, што адбываецца сёння ў краіне, вінаваты не імперыялізм Расіі, бяда – у нас саміх, у Вярхоўным Савеце, у нашай інтэлігенцыі, у несвабоднай прэсе і нашым народзе»,* — паведаміла «Белорусская газета» 10 лютага г.г.

Адначасова ў некаторых недзяржаўных выданнях падвяргаецца рэзкім нападкам ініцыятыва БНФ па збору подпісаў пад патрабаваннем аб адстаўцы Лукашэнкі. Аўтары — прыхільнікі АГП. Аргументы наступнага ўзроўню: «зачем начинать новую компанию в пику раскрученной в Европе Хартии-97?». Па гэткай логіцы — незразумела, навошта было ствараць саму АГП у піку «раскрученному» не толькі ў Еўропе, але і ў свеце БНФ.

Як я разумею, ініцыятары стварэння Хартыі не бычылі ў ёй палітычных мэтаў, гэта — акт грамадзянскага дзеяння. Ставячы свае подпісы пад Хартыяй, людзі не ўпаўнаважваюць яе ініцыятараў на нейкія палітычныя крокі. Подпісы ж за адстаўку Лукашэнкі — гэта палітычная акцыя, якая, канечне, патрабуе грамадзянскай смеласці.

## Нелегітымная пасада

Сёння масавая свядомасць схільная адвяргаць ідэю парламентарызму, і на прапанову аб скасаванні прэзідэнцтва можна пачуць: «А як жа ў астатніх краінах былога Саюза? Паўсюль — прэзідэнты».

І які вынік? Жыццё абвергла аргументы пра неабходнасць жорсткага цэнтралізаванага кіравання ў перыяд станаўлення дзяржаўнасці: нават такія вялізныя паўнамоцтвы, якімі валодае Ельцын, не дазваляюць забяспечыць выкананне ў рэгіёнах самых прыярытэтных распараджэнняў (свежы прыклад — разлікі па зарплаце).

У постсавецкіх краінах, дзе грамадзянская супольнасць не сфармаваная і адсутнічае вопыт супрацоўніцтва паміж галінамі ўлады, — прэзідэнцтва абавязкова вядзе да падаўлення (часта ў жорсткай форме) пэўных палітычных, сацыяльных ці нават нацыянальных груп. Найбольш прыкметна праявілася гэта ў некаторых рэспубліках Сярэдняй Азіі, дзе таталітарызм спалучаецца з буйнамаштабнымі ваеннымі дзеяннямі. Ці ў Азербайджане, які, паводле некаторых ацэнак, мае тысячы палітычных вязняў.

Канечне, не ў прэзідэнцтве галоўная прычына крызісаў і канфліктаў, але яно каталізуе небяспечныя працэсы. Дарэчы, у краінах Прыбалтыкі, дзе жыццёвы ўзровень у параўнанні з былымі рэспублікамі былога Саюза найбольш высокі, а грамадства наблізілася да еўрапейскіх стандартаў, — паўнамоцтвы прэзідэнта вельмі абмежаваныя.

На Беларусі ідэю прэзідэнцтва ўпершыню выгучылі прыхільнікі Кебіча ў траўні 1991 года, перапалоханыя масавымі страйкамі. Апазіцыі БНФ разам з дэпутатамі Дэмакратычнага клуба ўдалося тады заблакаваць галасаванне.

Але праз нейкі час ужо Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі (старшыня А.Дабравольскі) заявіла пра неабходнасць увядзення гэтай пасады.

Першы праект Канстытуцыі Беларусі не ўтрымліваў палажэнняў пра прэзідэнцтва. І гэта было галоўнай прычынай, з-за якой Канстытуцыя не прымалася больш двух гадоў — парламенцкая большасць настойвала на сваім. Але ў парламенцкай апазіцыі БНФ яшчэ хапала магчымасці трымаць пад сваім уплывам Дэмклуб.

Сітуацыя істотна змянілася пасля ўтварэння Партыі народнай згоды (ПНЗ). Яе ўзначаліў Г.Карпенка, у склад кіраўніцтва ўвайшоў В.Ганчар, але складалася партыя з былых камуністычных функцыянераў трэцяга эшалона і прадстаўнікоў бізнесу (пераважна — накачанага з партыйных жа грошай). Партыя імгненна заявіла пра сябе як пра «трэцюю сілу» і пачала актыўна фармаваць фракцыю ў парламенце. ПНЗ заявіла, што падрыхтавала кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, і, натуральна, выступіла за ўвядзенне гэтай пасады.

Такім чынам, у адносінах да прэзідэнцтва сярод дэмакратычных дэпутатаў адзінства ужо не было.

Напрыканцы 1993 года С.Шушкевіч, які адначасова з'яўляўся старшынёй Канстытуцыйнай камісіі, напэўна, жадаючы захаваць пад сабой спікерскае крэсла, перамяніў сваю пазіцыю і пагадзіўся на ўвядзенне «мяккага» варыянту прэзідэнцтва (калі апошні выконвае прадстаўнічыя функцыі). Але, як кажуць, кагаток завяз — усёй птушцы загубіцца. Парламенцкая большасць разам з «трэцяй сілай» праштампавала прэзідэнцкі варыянт як асноўны і імгненна прапанавала зрабіць «моцнага прэзідэнта». Пасля таго, як Шушкевіч пагадзіўся падпісаць яшчэ і Дамову аб калектыўнай бяспецы СНД, ён сваю функцыю выканаў і быў зняты з пасады. Ініцыятарам адстаўкі выступіў А.Лукашэнка, вакол якога ўтварылася каманда «маладых ваўкоў» — Д.Булахаў, В.Ганчар, Л.Сініцын, А.Лябедзька.

Абраны спікерам М.Грыб падчас уступлення на пасаду заявіў, што бачыць неабходным хутчэйшае прыняцце Канстытуцыі.

Тройчы апазіцыя БНФ друкавала ў прэсе мемарандумы, у якіх тлумачыла небяспечнасць увядзення прэзідэнцкай улады. Мы выкарысталі ўсе аргументы, каб пераканаць пракебічаўскую большасць, але кожны з гэтых дэпутатаў ужо бачыў сябе аддзякаваным Кебічам ці то міністэрскай, ці то пасольскай пасадай. Не жадалі ўспрымаць аргументы і «маладыя ваўкі», бо ў іх ужо быў «стопрацэнтовапраходны» важак — А.Лукашэнка.

Прыкметнай асаблівасцю парламенцкай большасці было тое, што яе дэпутаты дрэнна збіраліся на сесію, а Канстытуцыя можа прымацца не менш як дзвюма трацінамі галасоў.

І тады парламенцкая большасць пайшла на невераготны па сваім заканадаўчым нігілізме варыянт. Галасаванне па раздзелах, якія вызначалі сістэму прэзідэнцкай улады, вялося на працягу некалькіх дзён і пайменаванымі бюлетэнямі, а гэта значыць, што залежныя ад Кебіча дэпутаты былі цалкам падкантрольныя. Між тым, некаторыя з іх казалі, што пры тайным галасаванні выказаліся б супраць прэзідэнцтва. А галоўнае — такая працэдура не была прадугледжаная Рэгламентам Вярхоўнага Савета. Каб на той момант існаваў Канстытуцыйны суд, ён бы прызнаў вынікі галасавання нелегітымнымі.

Дык якія «заканадаўчыя падставы» мае на ўвазе Станіслаў Багданкевіч, калі кажа пра канстытуцыйнасць пасады прэзідэнта?

Дэпутаты апазіцыі адмовіліся галасаваць і прынялі заяву, у якой адзначылі, што *«спроба ўвесці нелегальным шляхам прэзідэнцкую ўладу на Беларусі не можа быць прымальнаю»*, і папярэдзілі, што беларускае грамадства не падрыхтаванае да прэзідэнцтва, што ў посткамуністычных краінах увядзенне такога інстытута ўлады *«аб'ектыўна вядзе да дыктатуры»* («Народная газета», 2 сакавіка 1994 г.). Пасмяяўшыся з «рамантыкаў», «рэалісты» прагаласавалі за прэзідэнцтва. Прагаласавала «за» кебічаўская большасць, прагаласавалі «за» «маладыя ваўкі». «За» галасавалі і дэпутаты, якія згуртаваліся вакол Г.Карпенкі — ён таксама меў жаданне выстаўляцца ў якасці кандыдата.

15 сакавіка 1994 года Канстытуцыя была прынятая.

Апазіцыя БНФ адразу заявіла пра нелегітымнасць пэўных раздзелаў Канстытуцыі. Тым не менш, БНФ выставіў на выбарах свайго кандыдата — гэта належала зрабіць нават дзеля таго, каб давесці да насельніцтва прыярытэты нацыянальнага адраджэння.

## Маскоўскі фактар

Лукашэнка колькі заўгодна можа казаць, што выбараў не будзе да 2001 года, але калі не ён, дык ягоныя памочнікі павінны разумець: чым раней, тым лепей. Прэзідэнцкія выбары ў 1999 годзе — гэта аптымальны варыянт для Лукашэнкі. Паколькі ён іх адназначна выйграе, тым самым ужо бясспрэчна легітымна замацаваўшыся цяпер ужо да 2004 года.

На гэтых выбарах ён у непараўнальна большай ступені, чым усе астатнія патэнцыяльныя кандыдаты, можа разлічваць на падтрымку Масквы.

Сёння вынік галасавання шмат у чым прадвызначае пазіцыя электронных СМІ — тэлебачання і радыё. Не толькі БТ, але і маскоўскія каналы будуць працаваць на Лукашэнку. Паўгода таму даводзілася ахалоджваць аптымізм некаторых аналітыкаў, якія ў скандале з журналістамі ОРТ бачылі «пачатак канца» для Лукашэнкі. Сёння не толькі расійскі прэзідэнт памірыўся з мінскім дыктатарам, але і аглядальнікі ОРТ змянілі адносіны да яго на супрацьлеглыя. Наперадзе — чарговыя скандалы, іншыя сваркі і новыя крыўды, але несумненна, што ў час «ікс» расійскае тэлебачанне адназначна падтрымае Лукашэнку.

Для кіраўніка ж Расіі (неістотна, хто ім у той момант будзе), Лукашэнка — самы паслядоўны і адданы прыхільнік расійскіх інтарэсаў. Ён, праўда, дурыць Крэмль на мільёны долараў з бяспошлінай гарэлкай, але гэта даравальныя дробязі ў параўнанні з агульнай абароннай сістэмай, якая каштавала б Расіі дзясяткі мільярдаў, і тут ён — «чэсны». Наіўна спадзявацца, што Крэмль вырашыць зрабіць стаўку на кагосьці з мінскіх дэмакратаў, якія рэгулярна ездзяць у Маскву «паказаць», што ёсць на Беларусі альтэрнатывы, прымальныя для Расіі. Любая змена — гэта рызыка, а Лукашэнка — свой, правераны.

Для маскоўскіх фінансавых тузоў, якія цалкам кантралююць расійскія СМІ, Лукашэнка — манапольны ўладальнік канцэрна «Рэспубліка Беларусь», з якім выгадна весці бізнес. Гэтыя тым больш не будуць рызыкаваць. Магчыма, сусветная супольнасць запатрабуе ад Масквы не падтрымліваць Лукашэнку? Але сітуацыя вакол Ірака выявіла ўсё большае ігнараванне Крамлём агульнапрынятай міжнароднай пазіцыі; такая эканамічна слабая краіна, як Расія, выглядае пры гэтым камічна, аднак факт застаецца фактам.

І наогул — пры любых прэзідэнцкіх выбарах на Беларусі ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі пазіцыя Масквы будзе адыгрываць галоўную і вызначальную ролю. Яна правядзе любога кандыдата, якога пажадае. Пры гэтым Крэмль ніколі, ні пры якіх умовах не падтрымае таго, хто будзе выступаць за адраджэнне беларускай мовы і нацыянальнай культуры (ужо не кажу пра эканамічныя, пра транзітныя інтарэсы Беларусі) — нават нязначная праява гэтага ўспрымаецца там як «радыкал-нацыяналізм». І для таго, хто сапраўды дбае пра нацыянальныя беларускія інтарэсы, аднаго гэтага дастаткова, каб дамагацца скасавання прэзідэнцтва. Уплываць жа на пар-

# Нагана, цэнтр мафіі

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

Яшчэ ў мінулым стагоддзі Японія была закрытай для еўрапейцаў краінай. А цяпер варта толькі сесці ў самалёт — і не паспееш з'есці прынесены мілай сцюардэсай абед, а ты ўжо, напрыклад, у Нагана. Расійская хакейная каманда прыляцела на Алімпіяду разам з жонкамі і дзецьмі. На вачах у іх гуляць кепска — сорамна! Нашым хакеістам замяніў жонак «бацька беларусаў», пад чыім наглядам яны і мусілі ганяць шайбу.

А.Лукашэнка зрабіў сабе перад паездкай у Японію адмысловую рэкламу, пахваліўшыся сваім плутоніем. Мабыць, забыўся, што ў японцаў усё, звязанае з ядзернай зброяй і атамнай бомбай, выклікае балючыя пачуцці. Як, дарэчы, у немцаў або французаў — успаміны пра Гітлера. Сапраўды, японскім тэлеаператарам больш не было каго паказваць на хакейных трыбунах, як нашага прэзідэнта. (Гэтак жа самотна выглядаў калісьці ў Барселоне яшчэ адзін прыхільнік сваёй «цвёрдай рукі» — Фідэль Кастра.) У беларускіх трансляцыях невераготная панегірыкі спяваў Лукашэнку хакейны каментатар Навіцкі. А вось польскае тэлебачанне асабліва не ўспаміналa, што А.Квасьнеўскі таксама быў на Алімпіядзе, і тым больш не пахвальвала яго за «бацькоўскі клопат» пра спартсменаў.

Праўда, наш прэзідэнт прызнаўся, што вельмі хваляваўся, баяўся пакінуць надоўга краіну, ведаў: з яго будуць «яхіднічаць» — але «плюнуў на ўсё» і паляцеў. І не дарма, бо мэта была дасягнутая. Пасля выкрыцця «мясцовай мафіі» на рынках і ў гастраномах Мінска Лукашэнка выявіў у Нагана, як ён паведаміў, «міжнародную мафію». Яна, нягодная, карыстаецца тым, што за спіной беларускіх і расійскіх спартсменаў больш няма «вялікай краіны», і не дапусціла беларусаў да медалёў.

А вось у прэзідэнта Польшчы, які наведаў Японію з неафіцыйным, але сур'ёзным візітам, клопаты былі іншыя. Па словах Аляксандра Квасьнеўскага, ён быў уражаны, наколькі зацікаўлена распытвала яго японская кіраўніцтва пра змест новай польскай канстытуцыі і пра тое, якая сітуацыя ў суседніх з Польшчай краінах... І заўважым, што з Японіі Квасьнеўскі адразу паспяшаўся наведаць Вільню, дзе ў панядзелак адзначалася 80-годдзе абвяшчэння незалежнасці Літоўскай Рэспублікі. Прыехаў да літоўцаў на свята і другі сусед — прэзідэнт Латвіі. Трэці сусед — А.Лукашэнка — тым часам абедаў у алімпійскай сталоўцы і хадзіў у раздзявальні да спартсменаў. Праўда, па ягоных словах, яго нібыта таксама запрасілі ў японскі парламент, але ён сказаў, што наўрад ці знойдзе на гэта час, бо «вельмі заняты ў Нагана».

Наш прэзідэнт яўна расчараваны любой іншай дэмакратыяй, чым тая, якую ўсталяваў ён сам. Вось, гаворыць Лукашэнка каментатару Навіцкаму, *«они нам твердят о демократии и справедливости, а у них и не пахнет этим»*. Так што не пачуць японскім дэпутатам прамовы беларускага прэзідэнта, пакрыўджанага на «міжнародную мафію», якая атабарылася ў Нагана. Давядзецца ім толькі са шкадобай успамінаць пра двух іншых беларусаў, якія пакінулі след у японскай гісторыі. У 1858-65 гадах першым расійскім консулам у Японіі быў беларус Язэп Кашкевіч, ён жа склаў і першы японска-рускі слоўнік. Другі наш зямляк — грамадска-палітычны дзеяч і філосаф Мікалай Судзілоўскі — жыў у Японіі на пачатку XX стагоддзя. Успамінаецца і яшчэ адзін беларус — ваенны лётчык Сяргей Грыцавец, які стаў вядомы тым, што ў 1939 годзе за адзін дзень ля ракі Халхін-Гол у Манголіі збіў 7 японскіх самалётаў...

Калісьці мы па-добраму зайздросцілі амерыканцам, чые прэзідэнты займаліся бегам, тэнісам, стараліся падтрымліваць сваю фізічную форму. Цяпер мы самі такога маем. Ён гаворыць, што галоўным беларускім дасягненнем на Алімпіядзе стала адкрыццё хакейнай зборнай. Апроч таго, усе даведаліся, што наш прэзідэнт — самы спартыўны ў свеце. Аднак гэта чамусьці не радуе.




# Алімпійскія грошы Украіны

**Да XVIII Алімпійскіх гульняў у Нагана Украіна выпусціла спецыяльныя срэбныя манеты.**

Гэтыя манеты прысвечаныя асноўным зімовым відам спорту, якія ў Японіі прадстаўляюць лепшыя ўкраінскія спартсмены, — фігурнае катанне, лыжныя гонкі і біятлон. Нацыянальны банк Украіны выпусціў гэтыя манеты ў абарачэнне 16 лютага — каб срэбныя дзесяць грыўняў падтрымалі атлетаў у змаганні за медалі. І не дарэмна: біятланістка Алена Пятрова ўжо выйграла срэбную ўзнагароду на дыстанцыі 15 км, а спаборніцтвы па згаданых відах спорту яшчэ працягваюцца.

Беларуская дзяржава не мае сапраўдных грошай — і таму не магла падтрымаць сваіх спарсменаў такім чынам. Можа, і дасягненні нашай каманды былі б тады большыя.

# беларусаў




*На здымку: мінскі АМОН аберагае расійскую амбасаду ад дэманстрантаў.*

ламенцкія выбары Маскве значна цяжэй.

## Рэзервы дыктатуры

Але галоўнае, на што можа і будзе абапірацца Лукашэнка, — гэта ментальнасць большай часткі грамадства.

Вынікі сацыялагічных даследаванняў (прычым праведзеныя канкуруючымі паміж сабой незалежнымі службамі) выяўляюць за Лукашэнкам першае месца ў рэйтынгу палітыкаў. Гэта, у спалучэнні з дыктатарскімі метадамі і поўнай манаполіяй на электронныя СМІ, дае амаль гарантаваны вынік. Аспрэчваць гэта, спасылаючыся на прыклад Кебіча, які таксама меў і ўладу, і прэсу, — не выпадае. Ёсць прынцыповая розніца паміж манапольнай уладай і дыктатурай. Пры Кебічу чыноўнік мог публічна выказаць сваю пазіцыю — і яго далёка не адразу ўдавалася зняць з пасады. Дэпутаты апазіцыі БНФ выходзілі ў эфір з трэцяй, пятай спробы, — але раз на паўгода выходзілі. Сёння чыноўніку, які хоць у нечым нязгодны з Лукашэнкам, пагражае не толькі імгненная адстаўка, а часам і турма, апанентам жа Лукашэнкі эфір не даецца зусім.

Грамадства вярнулася ў 1952 год — на выбарах у ВС СССР людзі тэарэтычна маглі выкрасліць з бюлетэняў прозвішча Сталіна, але... Але 99,9 працэнта былі — «за».

Эканамічная палітыка Лукашэнкі вядзе да ўсё большага збяднення насельніцтва; тыя слаі грамадства, якія маглі б галасаваць за рэформы, апускаюцца на ўзровень маргіналаў, для якіх самай універсальнай формулай эканомікі бачыцца покліч «узяць і ўсё падзяліць». І нават калі б Бог павярнуўся да Беларусі, і здарыўся цуд, і заўтра Лукашэнка б знік, — найбольшы шанц быць пераможцам атрымае чарговы папуліст, які будзе падладжвацца пад самыя цьмяныя інстынкты найбольш люмпенізаванай часткі грамадства.

Каб у Віцебску знайсці сметану, трэба абысці пяць магазінаў. Чаргу па танную каўбасу займаюць у сем раніцы. Яйкі выдаюць па строга вызначанай норме «ў адны рукі». А што кажуць у чэргах? «Малайчына Лукашэнка, што ўвёў абмежаванні. А то б нам і гэтага не засталося». Напэўна, кожны з чытачоў можа прывесці дзесятак падобных прыкладаў. Гэта вельмі падобна на часы застою, калі, здзекваючыся над нямоглым Брэжневым, людзі тут жа казалі: «Але ўсё ж ён змагаецца за мір, і дзякуючы яму няма вайны».

Тлумачэнне парадаксальнасці і ірацыянальнасці такога мыслення — па-за межамі тэмы гэтага артыкула.

Беларуская нацыя на працягу тысячагадовай гісторыі шмат часу знаходзілася пад чужым уплывам. І далёка не заўсёды гэта быў добры ўплыў. Калі з Еўропы ішлі каштоўнасці свабоды, дэмакратыі, перавагі права, то з іншага боку — нешта супрацьлеглае. Пакуль што наш народ пазбаўлены і маральных арыенціраў (людзі праглынулі лукашэнкаўскае ўсхваленне Гітлеру), і арыенціраў нацыянальных (у краіне сотні помнікаў Леніну і ніводнага — Каліноўскаму).

Заканамерна, аднак, што грамадства, якое знаходзіцца ў такім стане, праяўляе прыхільнасць да «жорсткай рукі», спадзеючыся ўбачыць у ёй руку выратавальніка. Акрамя таго, большасць насельніцтва жадае максімальна хуткага вырашэння сваіх праблемаў і аддае перавагу самым простым, прымітыўным абяцанням, прычым наіўнасць падобных абяцанак у іншай сітуацыі была б для людзей відавочная.

І не трэба мяне папракаць, што я лічу беларускі народ «дурным». Народ, у якога ёсць Скарына, Купала, Арсеньева, Быкаў — не можа быць дурным. Але ў трыццатыя гады адзін еўрапейскі народ, які даў чалавецтву Гётэ, Шапэнгаўэра і Брэхта, зрабіў выбар яшчэ горшы — бо знаходзіўся ў аддаведным стане. Менавіта гэта меў на ўвазе Пазьняк, калі казаў пасля прэзідэнцкіх выбараў і першага рэферэндуму, што народ хварэе, — выклікаўшы з'едлівыя каментарыі. (А сёння і Багданкевіч лічыць, што «бяда — у нашым народзе».)

Паміж іншым, некаторым дзеячам не трэба наракаць на непісьменнасць, цьмянасць беларускага грамадства — у любым іншым грамадстве адзін толькі удзел у прасоўванні на пасаду прэзідэнта такой асобы, як Лукашэнка, азначаў бы канец палітычнай кар'еры. Адразу і назаўсёды. У іншым грамадстве палітычных памылак такога маштабу — не даруюць. У Беларусі, відавочна, даруецца ўсё (акрамя паслядоўнасці). Нават калі так, — дык хаця б маральная адказнасць павінна быць за свае ўчынкі?

## Альтэрнатыва

Цяпер Лукашэнка лічыцца прэзідэнтам, які сістэматычна парушае Канстытуцыю, міжнародныя прававыя нормы, але — абраным народам. Менавіта так успрымаюць яго ў свеце.

А вось пасля 20 ліпеня 1999 года (міне пяць гадоў з моманту інаўгурацыі) ён ператвараецца ў асобу, якая ўтрымлівае ўладу незаконным чынам. Гэта значыць — ва ўзурпатара. І гэта дае маральныя правы прымяніць да яго ўсім іншыя метады як з боку палітычных сілаў Беларусі, так і з боку сусветнай супольнасці. Я нават сказаў бы, любыя прыдатныя метады.

Але актыўнасць гэтых дзеянняў будзе залежыць ад пазіцыі не палітыкаў, а народа. Прывяду два прыклады.

Калі ў кастрычніку 1992 года Вярхоўны Савет праігнараваў ініцыятыву больш як 400 тысячаў грамадзянаў і не прызначыў рэферэндум аб датэрміновых парламенцкіх выбарах, — Дзяржадэпартамент ЗША прыняў з гэтай нагоды заяву і адлаведным чынам ацаніў дзеянні ВС. Калі б тэма рэферэндуму абмяжоўвалася Авальнай залай, была толькі прадметам спрэчкі паміж апазіцыяй і парламенцкай большасцю, не было б і рэакцыі ЗША. Як не было яе ў сотні выпадкаў, калі прапановы апазіцыі адвяргаліся парламентам.

І да вясны 1996 года ЗША мелі сваю ацэнку расійска-беларускай інтэграцыі. Але заява Дзяржадэпартамента была прынятая толькі пасля таго, як на вуліцы Мінска выйшлі некалькі дзесяткаў тысячаў чалавек. У заяве адзначалася, што «меркаванне гэтых 30 тысячаў чалавек павінна быць улічанае». А калі б іх было не трыццаць тысячаў, а трыста?

Калі БНФ удасца сабраць значную колькасць подпісаў у падтрымку адстаўкі Лукашэнкі да тэрміну канстытуцыйнага завяршэння ягоных паўнамоцтваў (да ліпеня 1999 года), гэта дазволіць міжнароднай супольнасці ў сваім стаўленні да рэжыму абапірацца на меркаванне народа.

Такім чынам, ініцыятыва БНФ мае на мэце канкрэтны палітычны вынік. І ён будзе. Добра было б толькі, каб не перашкаджалі тыя, хто прыпісвае сябе да дэмакратаў. Але збор подпісаў — толькі першы крок. Другі — ліквідацыя прэзідэнцтва.

А вось наступным мусіць быць стварэнне такой дзяржаўнай мадэлі, якая найбольш аптымальна адлавядала б мэтам нацыянальнага і эканамічнага адраджэння краіны.

Гэтая мадэль палягае на прынцыпе парламентарызму. Свой электарат ёсць у БНФ, свой — у АГП, у сацыял-дэмакратаў. Як гэта ні сумна, сваё прадстаўніцтва, і, відаць, даволі значнае, будуць мець у парламенце і камуністы. Але, па сукупнасці, прыхільнікі рынкавай эканомікі і незалежнасці Беларусі могуць сабраць большасць парламенцкіх мандатаў і сфармаваць кааліцыйны ўрад, прэм'ер якога можа валодаць шырокімі паўнамоцтвамі. Такіх паўнамоцтваў дастаткова, каб пачаць аднаўляць разбуранае Лукашэнкам (не кажу аднавіць — бо дзеля гэтага патрабуецца дзесяцігоддзе). І, разам з тым, захаванне прынцыпу падзелу ўладаў не дазволіць прэм'еру ісці на антыканстытуцыйныя дзеянні. Бо парламент будзе валодаць правам зняць прэм'ера — хай сабе і коштам перавыбараў самога парламента; грошы на выбары — для грамадства гэта значна меншая плата, чым уласная кроў — за дыктатуру.

...Тыя, хто чатыры гады таму дамагаўся ўвядзення прэзідэнцтва і цяпер уваходзяць у кіраўніцтва АГП, зноў настойваюць захаваць гэты сумнеўны ў цяперашніх беларускіх умовах інстытут улады. Нават ужо і пабачыўшы «бяду» народа.

Ну хоць ты звярніся да іх напрамую: *«Паважаныя спадары — лідэры АГП! Няўжо жыццё не даказала вам, што такі непрыемны для вас БНФ меў рацыю? Няўжо будучыня краіны для вас значыць меней, чым вашыя ўласныя інтарэсы? Не зацягвайце вакол Беларусі і без таго тугую пятлю, не стаўце зноў лёс нацыі ў залежнасць ад вашых асабістых палітычных амбіцыяў!»*

**ДАГЕРРОТИП**

# Моя твою не понимает

**Семен БУКЧИН**

Два года назад президент России Борис Ельцин, (как известно большой грамотей и замечательный оратор) решил дать своим соотечественникам урок хорошей речи. Специальным указом была создана правительственная Комиссия по русскому языку. К сожалению, мне ничего неизвестно об успехах этой почтенной команды, возглавляемой академиком Евгением Челышевым. Знаю только, что некоторые ведущие московских телеканалов по-прежнему произносят *«обеспечéние»*. Чего, кстати, в советские времена не было. А уж за *«прецеНдент»* попросту выгнали бы с работы.

Нынче времена либеральные. Язык премьера Черномырдина, похоже, стал предметом специальных исследований. Да и по языку самого Ельцина можно диссертацию защитить. Но что мы всё пускай и о близких, но все-таки заграничных друзьях? Как у нас-то, в суверенной Беларуси, с этой самой языковой проблемой?

Ну, прежде всего, нельзя не вспомнить недавно принятые поправки к Закону о печати, предписывающие, среди прочего, не нарушать нормы белорусского языка — точнее, писать на том белорусском языке, который власть считает удобным для себя. В белорусском, конечно, сегодня разнобой велик: «наркомаўка», «тарашкевіца», замысловатая авторская речь, усеянная полонизмами... Как-то в «Нашай Ніве» прочитал: *«... на фоне, на тле...»* Подумал: если уж «на фоне», то зачем понадобилось автору еще и «тло»? Впрочем, в белорусском языке сегодня идут сложные процессы, и это тема отдельного разговора. Я о другом: о том, что неграмотная по сути власть пытается диктовать и в такой тонкой сфере, как языковая.

А по неграмотности наша власть не уступает российской. Вся разница, что там это неграмотность в русском, а у нас двойная — и в белорусском, и в русском. Услышать правильную ту или другую речь от чиновника высокого разряда ныне невозможно. Русский язык нашего высшего чиновничества заказенен до умопомрачения. Мне уже приходилось писать по поводу высокой стилистики г-на Титенкова, письменно выражающегося с невероятной бюрократической витиеватостью: «В части высказанной обеспокоенности по поводу возможности проведения...» Пожалуй, и писцы екатерининской эпохи дрогнули бы перед этой изысканностью слога.

Что же до устной речи наших отцов и благодетелей, то она мне всегда напоминает желудочное урчание, почему-то непосредственно передающееся в мозг. Что-то там варится, крутится — и вот уже слетает с языка. И что самое любопытное: сидящие в зале и внимающие такому оратору прекрасно понимают его. Что значит одинаковое психофизиологическое устройство!

Но что толку долбать начальство, когда пишущая журналистская братия дает такие образцы не только литературной культуры, но и элементарной грамотности, от которых хочется волком выть. В «Народной газете» как-то прочитал о Крите: «...остров, *на который* была похищена Европа из Трои...» С этим самым «на» в «Народной газете», судя по всему, большие трудности. Один из ее журналистов сообщает: «... эпидемия *на* взрывы петард при бездействии властей уже успела захлестнуть большие и малые города Беларуси».

Ладно, здесь можно провести некий ликбез. А что делать, когда отказывает... не знаю даже что... Слух? Какой-то особый орган, отвечающий за культуру? Ну вот, в «Советской Белоруссии» читаю заголовок статьи: *«200-летие со дня рождения Адама Мицкевича будет широко отмечаться не только у нас, но и в Польше»*. Представляете, какая потрясающая новость? Оказывается, и в Польше будут отмечать юбилей Мицкевича. А мы и не знали, что и поляки какое-то отношение к автору «Пана Тадеуша» имеют. Спасибо, «Советская Белоруссия» просветила...

А как понимать этот перл, еще один заголовок недавней публикации в «Советской Белоруссии» — *«Вторая попытка покушения на жизнь Эдуарда Шеварднадзе тоже оказалась неудачной»*? Здесь, конечно, самое замечательное это «тоже». Автор не слышит, не понимает двусмысленности употребления этого слова в таком контексте. Звучит если не как сожаление, то, во всяком случае, как равнодушная констатация неудачи: вторая-то попытка убить грузинского президента не удалась. Может быть, третья...

Зато цветут не только на страницах нашей прессы, но и на улицах «брокеры», «чартеры», «спонсоры» и прочие «ноу хау». Понятное дело, новые времена — новые песни. Но почему во Франции существует закон, по которому за употребление иностранных слов (в первую очередь, английских) в уличных вывесках и официальных документах налагается штраф? В Израиле все иностранные надписи на упаковках с продуктами должны обязательно сопровождаться переводом на иврит.

Недавно коллега спросила: «Как лучше — кыргызский или кыргызстанский?» Я посоветовал ей не ломать язык и вспомнить нормальное «киргизский». Но как же национальная традиция, уважение к другим народам? Только при чем тут уважение, если существует сложившаяся традиция. В Германии нет города Лейпцига. Есть Ляйпциг. Нет в истории немецкой литературы поэта Гейне. Есть Хайне. И в польском нет страны Дойчланд, а есть Немцы, нет страны Италии, а есть Влохы. Так исторически сложилось в языках разных народов.

Мы, конечно, уважаем, говоря словами Виктора Степановича Черномырдина, «наше недалекое зарубежье». Но стоит ли ломать язык и зубы? Ведь у нас и без того — ни нормального белорусского, ни хорошего русского. А с «кыргызскими» делами мы и вовсе пропадем. Да и чего уж требовать от простого народа, когда больше всего язык коверкают политики и журналисты.

# Блізкая Амерыка



*«Мая Амерыка». Здымак з фотадзённіка Міхала Баразны.*

«У жыцці нашым людзям не стае творчых учынкаў», — лічыць мастацтвазнаўца Міхал Баразна. І прапануе свой спосаб творчасці — параўнаць непараўнальнае, супрацьпаставіць агульнапрынятым мерканням арыгінальныя асабістыя ідэі. Адзін з праектаў М.Баразны ўзнік менавіта такім шляхам: ён адкрыў сваю Амерыку — не тую, што ўсім добра знаёмая па рэкламных карцінках і «касавым» кіно, а іншую — сваю. Пра яе М.Баразна расказвае чытачам НАВІНАЎ.

Амерыка — гэта сапраўды так далёка! Тая Амерыка, якую для еўрапейцаў пяць стагоддзяў таму адкрыў Калумб, не стала з часам для простага беларуса нашмат бліжэйшай. Але: «Калі Магамет не ідзе да гары, то гара сама ідзе да яго...»

На ўсходзе Каралеўства Беларусь, непадалёк ад галоўнай шашы, што перацінае наш край праз самае сэрца з захаду на ўсход, у Круглянскім раёне ёсць вёска з выключна кантынентальнай назвай — Амерыка. Бывае, што кроплі тлушчу праступаюць плямкамі праз абрус на святочным стале. Магчыма, і гэтая пляміна на карце — напамін пра тлусты «той бок Зямлі». Тут непатрэбныя аніякія візы, чужая валюта, слоўнікі. Няма эмоцый стандартнага чужынца-турыста і настальгічнага сіндрому эмігранта. Зямля круглая — назва раёна гэта адмыслова падкрэслівае. Не толькі мне пашэнціла нарадзіцца паміж Амерыкай і Заходняй Еўропай. Праўда, хацелася, каб Еўропа была не назва занядбанага ляснога хутара — як Амерыка.

Дзіўна, што назва захавалася праз часы агітатарскага сцірання з памяці гістарычных назваў. Мяне на гэты раз не вельмі цікавіла — хто і чаму так назваў гэтую вёску, не хацелася ў гэтым краявідзе штучна акцэнтаваць увагу на нечым забаўляльным, публіцыстычным. Так можна не ўбачыць галоўнага.

А застаўся ў Амерыцы толькі адзін стары дамок. Жыхары вёскі былі самыя што ні ёсць сапраўдныя амерыканцы — як і звычайныя сталінцы бадзяга не інакш як мінчук. Было б глупствам называць іх савецкімі амерыканцамі. Спрадвеку мясцовыя жыхары, якія б погляды імі ні валадарылі, — безумоўна беларусы. Шкада, што ніхто тут ужо не жыве. Цяжка верыць і не верыць у хуткі росквіт гэтай прыгожай мясціны, дзе наўпрост — крышталёвае паветра, а славутую статую Свабоды замяняе тут магутны незалежніцкі дуб сярод поля.

*Разважанні Міхала БАРАЗНЫ запісала* **Алена СУРКО**

# Маладзёжныя прэм'еры

**У мінскім муніцыпальным Маладзёжным тэатры сёлетні сезон — трынаццаты па ліку. Аднак акцёры не баяцца прыкметаў і чакаюць ад «нешчаслівага» года новых поспехаў. Аб прэм'ерах сезона НАВІНАМ расказвае загадчык літаратурнай часткі тэатра Генадзь Грыневіч.**

— На пачатку гэтага сезона ў нашых афішах з'явіўся спектакль «Сакрэт Шахразады», пастаўлены паводле славутых усходніх казак. Нягледзячы на казачны сюжэт, гэтая імпрэза адрасуецца перш за ўсё дарослым гледачам. Яе стваральніца, балетмайстар Марына Дударава, даўно супрацоўнічае з нашым тэатрам. У Маладзёжным цяпер ідзе яе спектакль, прысвечаны Мэрылін Манро, — «Я жадаю быць каханай».

Марына Дударава гаворыць з публікай мовай танца, шмат эксперыментуе. «Сакрэт Шахразады» — таксама смелы эксперымент. Рэч перш за ўсё ў тым, што культура Усходу — рэч таямнічая і вельмі далікатная, і нашым еўрапейскім фантазіям на ўсходнія тэмы цяжка дасягнуць таго хараства, што ёсць у арыгінале. Аднак спектакль атрымаўся прыгожы, з цікавымі касцюмамі і сучаснай музыкай. Мы ігралі «Сакрэт Шахразады» на тэатральным фестывалі ў Каіры, і калегі з тэатраў розных краінаў (у тым ліку мусульманскіх) паставіліся да гэтай работы вельмі прыязна.

Зусім нядаўна ў нашым тэатры адбылася прэм'ера гогалеўскай «Жаніцьбы» ў пастаноўцы Віталя Катавіцкага. Дарэчы, «Жаніцьба» толькі на першы погляд здаецца бытавой камедыяй пра няўдалага кавалера. Уважлівы прачытаўшы п'есу — а лепш паглядзеўшы спектакль у Маладзёжным тэатры, — вы зразумееце, што ёсць тут і вельмі глыбокі філасофскі падтэкст. У вобразе Качкарова, які спакушае галоўнага героя ажаніцца, бачыцца сам д'ябал — і мы імкнуліся ў сваёй пастаноўцы гэта падкрэсліць. Тым больш, што ўсялякая д'ябальшчына — гэта сапраўды гогалеўскі стыль. А яшчэ ў гэтым спектаклі адметныя дэкарацыі і касцюмы вядомага ў Беларусі сцэнографа З.Марголіна.

**— Такім чынам, ваш цяперашні накірунак — даўняя і нядаўняя замежная класіка.**

— Як бачыце, мы не баімся ставіць класіку і нават не лічым перашкодай тое, што п'есы Гогаля, у тым ліку і «Жаніцьба», ідуць у іншых тэатрах горада. Сапраўды, прагледзеўшы тэатральныя афішы, заўважаеш, што ў Мінску цяпер пануе нейкая мода на Гогаля, і невядома, чым гэта растлумачыць. Напэўна, гогалеўская «д'ябальшчына» нас усіх апанавала. А калі сур'ёзна — наша пастаноўка вельмі арыгінальная, я ўпэўнены, што нашае прачытанне, адрознае ад усіх іншых, сапраўды зацікавіць публіку.

Але на класіцы мы не зацыкліваемся. Вясной у Маладзёжным тэатры чакаецца яшчэ адна прэм'ера. Спектакль будзе называцца «Недзе далёка» і раскажа гледачам сучасную гісторыю пра жанчыну і двух яе мужчынаў. П'есу ўкраінскай пісьменніцы Аляксандры Паграбінскай ставіць мастацкі кіраўнік нашага тэатра Віргінія Тарнаўскайтэ. Паводле вызначэння абедзвюх стваральніц, гэта будзе «камічная драма» — каханне і смерць, дэтэктыўныя перыпетыі і чорны гумар... Адзначу, што пры сённяшніх праблемах з выбарам драматургічнага матэрыялу п'еса А.Паграбінскай адразу звярнула на сябе нашую ўвагу. Гэта, здаецца, нешта сапраўды новае і цікавае.

А яшчэ ў гэтым сезоне ў нас з'явілася новая імпрэза для дзяцей. Спектакль-казку «Брыдкое качаня» паводле Андэрсэна прыдумаў і паставіў Сяргей Кавальчык. Дзіцячы тэатр — гэта не менш цікава і важна, чым «дарослыя» пастаноўкі. Сённяшнія дзеці заўтра стануць моладдзю і зноў прыйдуць у наш Маладзёжны тэатр.

*Гутарыла* **Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

**АФІША**

# Джаз апоўначы і круглыя суткі

Месца правядзення міжнароднага джазавага фестывалю «Мінск-98» — сталічны клуб імя Дзяржынскага. Тут пройдуць выступленні беларускіх і замежных (г.зн. расійскіх) джазменаў, і трэба чакаць, што ў маленькай клубнай зале свабодных месцаў не будзе. Джаз у Мінску любяць, а імпрэзы ў гэтым стылі бываюць у нас вельмі рэдка.

24 лютага а 19-й гадзіне на фестывалі будуць выступаць Дзіцячы джазавы ансамбль Пятра Пятрухіна (Масква) і вядомы беларускі гурт «Яблычны чай», а 25-га пройдуць цэлыя два канцэрты: «Вакальны джаз» з удзелам маскоўскага піяніста Анатоля Крола і яшчэ многіх цікавых гасцей, і «Джаз апоўначы» (пачатак а 22-й гадзіне), у якім будуць выступаць *String Jazz Trio & other* (Мінск), «Фрагмент-бэнд» (Баранавічы) і джаз-ансамбль Уладзіміра Бялова (Мінск).

**ТЭАТРЫ**

Рускі тэатр запрашае пагледзець на Вялікай сцэне 20 лютага «Свабодны шлюб», 21-га — «Раскіданае гняздо», 22-га раніцай — «Таямніцы чароўнага гарышча», увечары — «Вар'ят і манашка». На Малой сцэне Рускага тэатра пройдуць спектаклі «Рулетка» (24 лютага) і «Браты Моор» (25 лютага).

Тэатр імя Янкі Купалы прадстаўляе 21 лютага «Ромула Вялікага» (Вялікая сцэна) і «Смех лангусты» (Малая сцэна), 22-га — дзіцячы мюзікл «Карлік Нос» (11:30) і «Умовы дыктуе жанчына» (19:00), а на наступным тыдні пройдуць «Смерць Тарэлкіна», (23 лютага) і «Памінальная малітва» (26 лютага).

У Тэатры беларускай драматургіі 20 лютага ў 19:00 і 22-га ў 12:00 пройдзе «Дзіця з Батлеема». Таксама тут можна пагледзець 21 і 25 лютага «Барбару Радзівіл», 22-га — «Лекара паняволі», 26-га — «Рычарда». Маладзёжны тэатр пакажа 20 і 21 лютага «Сакрэт Шахразады», 24-га — «Прыйшоў мужчына да жанчыны», 26-га — «Я жадаю быць каханай». Тэатр-студыя кінаакцёра запрашае паглядзець «Таланты и поклонники» (21 і 22 лютага) і «Мы ідзём глядзець «Чапаева» (24 і 25 лютага).

Тэатр оперы і балета 20 лютага чакае меламанаў на класічны балет «Жызэль». 21-га тут адбудзецца канцэрт хору Беларускай оперы. У нядзелю, 22 лютага дзеці могуць паглядзець і паслухаць оперу «Чароўная музыка», а ўвечары пройдзе балет «Дон Кіхот». 25-га на нашай галоўнай музычнай сцэне — балет «Спартак», 26-га — опера «Вяселле Фігара».

**ГАСТРОЛІ**

18 лютага ў канцэртнай зале «Мінск» выступіць зорка савецкай эстрады Валерый Лявонцьеў. Пачатак а 19-й гадзіне. Квіткі каштуюць ад 300 тысячаў да 2 мільёнаў рублёў, прычым усе «танныя» месцы — да мільёна кошгам — ужо даўно раскупленыя.

Маладое пакаленне эстрадных спевакоў Расіі таксама прадстаўленае ў гастрольнай афішы бліжэйшага тыдня: 22 лютага а 18-й у Доме афіцэраў сустрэчы з мінчукамі будзе чакаць Ірына Салтыкова (200—600 тысячаў рублёў за адзін квіток), і ў той жа дзень, крыху пазней — а 23-й гадзіне — у клубе «Рэактар» праспявае для сваіх прыхільнікаў Влад Сташэўскі. Кошты квіткоў, як заўсёды ў «Рэактары», уражваюць: каб сесці, давядзецца аддаць каля паўтара мільёна, а паслухаць Сташэўскага стоячы можна за 400—600 тысячаў рублёў.

**КАНЦЭРТЫ**

У гонар усенароднага свята мужчынскасці і ваяўнічасці — «Дня абаронцы Айчыны» — у філарманічнай зале выступіць з канцэртам Галоўны ваенны аркестр Узброеных Сіл РБ. Кіруе і дырыжыруе аркестрам палкоўнік і заслужаны артыст Беларусі Міхаіл Берсан. У канцэрце таксама возьмуць удзел кампазітар Ігар Лучанок, спявачка Наталля Руднева і іншыя.

21 лютага а 16-й гадзіне ў Канцэртнай зале філармоніі маленькія слухачы пазнаёмяцца з творчасцю Рахманінава (канцэрт з цыкла «Дзіцячыя гады любімых кампазітараў»). 22 лютага, таксама а 16-й, адбудзецца канцэрт «Скрыпка і гітара».

Польскія піяністкі Г.Чэрні-Стэфаньска і Э.Стэфаньска выступяць у Канцэртнай зале разам з нашым Дзяржаўным камерным аркестрам 24 лютага. А 25-га малады беларускі піяніст С.Смірноў і Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі выканаюць сюіту Г.Фарэ «Пелеас і Мелізанда».

Зала камернай музыкі 20 лютага запрашае паслухаць музыку Шумана і Шастаковіча ў выкананні фартэпіяннага квінтэта. 24-га тут прагучаць творы Букстэхудэ і Баха ў выкананні Таццяны Шчэрбы (арган), а 26-га пройдзе аўтарскі вечар кампазітара Валерыя Карэтнікава.

Музыка ў стылі «рок» знайшла для сябе яшчэ адну канцэртную пляцоўку — 26 лютага рок-канцэрт «Жывы гук» з удзелам гуртоў *Hasta la Fillsta*, «Трэп», *The Stocks* і «Тройца» адбудзецца ў актавай зале МДЛУ (**інстытута замежных моваў**). Квіткі каштуюць 50 тысячаў рублёў.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

**НА ПЕРСПЕКТЫВУ**

# Ці ёсць у нас шоу-бізнес?

**«Так!» — сцвярджаюць аўтары каталога «Шоу-бізнес Беларусі 97/98», што выпусціла нядаўна мінская фірма «Каўчэг».**

Каталог складаецца з некалькіх секцыяў, якія, на думку аўтараў, прадстаўляюць сабою поўны спектр беларускай забаўляльнай індустрыі.

Пачынаецца ўсё з інфармацыі пра артыстаў — музыкаў і гуртоў розных накірункаў. Вядома ж, ахапіць увесь спектр аматарскіх гуртоў і выканаўцаў аўтарам не ўдалося, але яны, відаць, на гэта і не прэтэндуюць. Затое праявіліся аб'ектыўныя цяжкасці ў вызначэнні стылю таго ці іншага выканаўцы: некаторыя імёны сустракаюцца па некалькі разоў. Перагартаўшы старонкі, прысвечаныя артыстам, можна пазнаёміцца і са звесткамі пра аўтараў — кампазітараў, паэтаў, аранжыроўшчыкаў, прадзюсераў і нават мадэльераў.

З каталога можна таксама даведацца, дзе і якія фестывалі ды музычныя конкурсы праходзяць у Беларусі, на якія дыскатэкі і ў якія клубы можна схадзіць, каб адпачыць. Добра ці не — залежыць перш за ўсё ад вас саміх.

Асобна ідзе ў каталогу інфармацыя для тых, хто збіраецца прафесійна заняцца шоу-бізнесам: звесткі пра тэатральна-відовішчныя прадпрыемствы, рэкламныя агенцтвы і кампаніі гуказапісу, пра фірмы, што займаюцца вытворчасцю музычнага абсталявання, і г.д.

Сам факт з'яўлення такога каталога менавіта цяпер — больш сімвалічны, чым выкліканы рэальнай патрэбай: аўтары імкнуцца паказаць, давесці ўсяму свету, што шоу-бізнес у Беларусі ёсць, што і з намі можна таксама супрацоўнічаць. Выдання вельмі спецыфічнае — таму каталог з'явіўся невялічкім накладам, хоць і добрай паліграфічнай якасці. І хочацца толькі пажадаць, каб беларускі шоу-бізнес дажыў да тых лепшых часоў, калі сапраўды спатрэбіцца каталог, праспекты і часопісы, каб распавядаць пра яго зацікаўленым беларусам і замежнікам.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Базар і тэатры на абмен

**На мінулым тыдні ў Мінску міністр культуры Расіі Наталля Дзяменцьева і яе беларускі калега Аляксандр Сасноўскі падпісалі Пратакол аб супрацоўніцтве на 1998 год.**

Як паведамілі карэспандэнту НАВІНАЎ у міністэрстве культуры, такія пагадненні паміж нашымі краінамі заключаюцца раз у год і датычаць канкрэтных сумесных праектаў. Найбольш значнымі беларуска-расійскімі імпрэзамі сёлета абяцаюць быць фестываль «Славянскі базар», гастрольныя паездкі ў Маскву сталічнага Рускага тэатра і тэатра імя Янкі Купалы, а ў Мінск прыедуць маскоўскія тэатры імя Ленінскага камсамола і імя Ярмолавай. Плануецца таксама, што ў Санкт-Пецярбургу і Ноўгарадзе пройдзе выстава «Традыцыйны народны касцюм Беларусі», а ў Мінску Аб'яднанне літаратурных музеяў разгорне экспазіцыю, прысвечаную Пушкіну (экспанаты павінны прыбыць з маскоўскага Пушкінскага музея).

У Пратаколе аб супрацоўніцтве таксама абвяшчаецца, што адукацыя ў навучальных установах культуры Расіі будзе бясплатнай для грамадзянаў Беларусі, а беларускі бок будзе бясплатна навучаць у нашых вучылішчах і інстытутах расіян.

У падпісаным міністрамі дакуменце не закранаецца праблема вяртання культурных каштоўнасцяў. Аднак падчас сваёй сустрэчы Н.Дзяменцьева і А.Сасноўскі абмяркоўвалі, як знайсці і вярнуць у Беларусь некаторыя шэдэўры, страчаныя яшчэ ў часы Другой сусветнай вайны. У беларускім міністэрстве культуры лічаць, што срэбная булава караля Жыгімонта III, залатыя ключы горада Магілёва, цудатворны абраз Маці Божай Бялыніцкай і іншыя рэліквіі могуць знаходзіцца цяпер недзе за ўсходняй мяжой. Расійскія калегі абяцаюць дапамагчы ў пошуках.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

